# ДОБРЫ ПАЧАТАК

Канцэрты беларускай камернай музыкі, якія наладжваюцца Саюзам кампазітараў, становяцца ў нас традыцыйнымі. Такіх канцэртаў ужо адбылося тры. Слухачы іх па вартасці ацанілі ўключаныя ў праграму санату М. Аладава для дзвюх скрыпак, віяланчэлі і фартэпіяна, рамансы Ул. Алоўнікава, Л. Абеліёвіча, А. Багатырова, санату для скрыпкі і фартэпіяна Д. Камінскага, фартэпіянныя п'есы В. Жубінскай і іншыя творы. На жаль, тут жа даводзіцца сказаць, што жанр камернай музыкі ў кампазітараў рэспублікі далёка не ў пашане. Гэта асабліва прыкметна пры аналізе праграмы канцэртаў. Яна складалася пераважна з твораў, напісаных у мінулыя гады. У апошні час беларускія кампазітары мала звяртаюцца да жанра камерна-інструментальнай музыкі.

Трэба адзначыць удзел у камерных канцэртах шырокага кола выканаўцаў — артыстаў філармоніі, Радыёкамітэта, Тэатра оперы і балету, педагогаў і студэнтаў музычных навучальных устаноў і саміх кампазітараў — В. Жубінскай, Л. Абеліёвіча і інш. Усе выканаўцы выступаюць на добрым прафесіянальным узроўні і правільна трактуюць вялікія цыклічныя творы. Так, напрыклад, студэнт Беларускай кансерваторыі В. Крыштопенка натхнёна сыграў фартэпіянную санату А. Багатырова.

Сярод буйных інструментальных твораў, якія прагучалі ў канцэртах, найбольшае ўражанне пакінула саната для дзвюх скрыпак, віяланчэлі і фартэпіяна М. Аладава. У гэтым творы вабіць драматычная ўсхваляванасць, шырокая меладычная лінія, якая набывае то трагічную (фінал), то сузіральную (андантэ) афарбоўку або лірычны, усхваляваны (1-я частка), дынамічны (скерца) характар.

Музыка санаты глыбока чалавечная. Кампазітар шчыра гаворыць пра свае пачуцці. Майстэрства, уласцівае М. Аладаву, прыкметна як у завершанасці формы твора, так і ў прымяненні вострых гарманічных сродкаў, смелых паліфанічных напластаванняў, у шырокім выкарыстанні тэмбравых фарбаў, разнастайных прыёмаў ігры.

Выканаўцы Л. Гарэлік і А. Дабржынец (скрыпкі), В. Брэянкоў (віяланчэль) і С. Талкачоў (фартэпіяна), перадаючы ідэйна-мастацкі змест санаты, падкрэслілі яе ўсхваляванае драматычнае гучанне, дэталёва і выразна раскрылі арыгінальны і «дзёрзкі» характар скерца (тут асобна хочацца вылучыць выдатную ігру С. Талкачова). Глыбокае ўражанне пакінула другая частка санаты, напісаная ў стылі калыханкі. Шырокая тэма народнага складу навявае вобразы далёкага маленства з яго светлымі летуценнямі. Аднак не ўсё бязвоблачнае і ў гэтую пару чалавечага жыцця. У канцы калыханкі ўзнікаюць змрочныя карціны лёсу. Выканаўцы ўмела раскрылі характар і настрой калыханкі.

У фінале санаты з яго зваротам да інтанацыйнай сферы першай часткі выканаўцы здолелі раскрыць драматычны пафас, які дасягае трагічнага настрою ў заключным эпізодзе. На жаль, кампазітар не здолеў абагульніць гэтыя ўсхваляваныя пачуцці.

З інструментальных твораў, апроч санаты М. Аладава, на апошнім камерным канцэрце піяністам А. Жэзмерам выкананы тры фартэпіянныя прэлюдыі маладога кампазітара Р. Бутвілоўскага. У першай з гэтых мініяцюр, захапіўшыся пошукамі характэрных, выразных нюансаў, інтанацыйных дэталей, імкнучыся абаперціся на вострыя гарманічныя сродкі, кампазітар страціў эмацыянальны пачатак музыкі, яе выразныя якасці. Мабыць таму яна прагучала суха і нецікава.

Другая прэлюдыя больш удалая па эмацыянальнаму ладу. Р. Бутвілоўскі пераканальна падпарадкоўвае ўсю яе фактуру раскрыццю мастацкага вобраза. Асабліва ўдалася паступовая падрыхтоўка да кульмінацыі, якая гучыць драматычна напружана, ярка. Трэцяя прэлюдыя нясе ў сабе водгулле сучасных вальсаў. Яна мала арыгінальная.

На апошнім канцэрце ярка і з вялікім уздымам рамансы Л. Абеліёвіча выканаў В. Чарнабаеў. Запамінаецца «Балада аб Радзіме» (словы М. Алтухова) з яе роздумам пра лёс краіны. Тры рамансы з вакальнага цыкла на словы А. Цютчава «Глядзі, як гай зелянее», «Дзіця» і «Восень» вабяць яркай фартэпіяннай партыяй, вялікай эмацыянальнай насычанасцю. Кампазітар надаў фартэпіяннай партыі выключнае значэнне ў раскрыцці паэтычных вобразаў.

У другім аддзяленні І. Балоцін і Л. Бражнік праспявалі пяць вакальных твораў Ул. Алоўнікава. Цёпла і натхнёна быў выкананы раманс «Ты прыдзі» на словы Янкі Купалы. І. Балоцін знайшоў выразныя фарбы, нюансы для раскрыцця лірычнага вобраза. З уздымам прагучаў адзін з лепшых рамансаў кампазітара «Дазволь цябе любіць» на словы Зм. Бядулі. А вось «Песню пра Заслонава», нам здаецца, варта спяваць так, як яна напісана, г. зн. у лірычным плане. На жаль, І. Балоцін, надаўшы гэтай песні маршападобны характар, змяніў яе рытмічную структуру, знізіў задушэўную цеплыню, прывабнасць і прыгажосць твора.

Балада «Дуб» на словы Якуба Коласа прагучала вяла, без належнай суровасці і эмацыянальнага гарту. Відаць, Л. Бражнік не знайшоў яшчэ ў музыцы тых фарбаў, якія надалі б твору велічны характар. А вось раманс «Мой мілы друг» на словы Пушкіна выкананы з сапраўдным артыстычным бляскам.

На жаль, на гэтых цікавых вечарах камернай музыкі яшчэ мала слухачоў. Саюзу кампазітараў трэба паклапаціцца, каб на іх бывала як мага больш публікі, аматараў мастацтва.

Б. СМОЛЬСКІ.

# Хто будзе дваццаць сёмы?

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

лі. Наступны пасля Пятроўскага таксама каля года пратрымаўся. Як кажуць, мянялі Пятра на Івана. Затым Караткевіча паставілі, які за 20 тысяч прадаў той лакамабіль. Пастаяла ж машына пад дажджом, снегам, заіржавела — вось вам і парадак. Або яшчэ прыклад. Купілі пры Якутовічу станок для вырабу чарапіцы. Пяць тысяч аддалі. Якутовіча змянілі, а ў цяперашняга Талкачова свае парадкі. Ад таго станка рожкі ды ножкі засталіся. Дзеці парасцягалі часткі. Вось так у нашым калгасе: працаваць не хочуць. Усе мужчыны старшынямі перабылі. А каго прышлюць з раёна, пагрэецца трохі ля калгаса — і гайда адсюль. А вы думаеце, у Енцах сапраўды зямля не родзіць? Пакралі ячмень. Вось так і павялося з году ў год. Восенню і салому парасцягвалі. Аднаму злодзею — вымову, другому — папярэджанне. І ўсё. Дайшло да таго, што надоечы сам старшыня з заатэхнікам некалькі дзён даглядалі 15 кароў. Не маглі ў брыгадзе знайсці даглядчыцу. Для заахвочвання Талкачоў абяцаў выдаць дзесяць кубаметраў лесу, нават сукенку шаўковую. Ні адну дзяўчыну не спакусіла павышаная аплата, пакуль не скончыліся каляды. А святкуюць у Воранаўцы бурна і падоўгу. Як зачнуць у суботу, дык рэдка хто кончыць у панядзелак. Столькі самагонкі перап'юць — дзе там да калгаснай работы.

І як ні дзіўна, у бедным, адстаючым калгасе людзі жывуць заможна. Амаль у кожнага па 50—70 сотак прысядзібнага ўчастка. Зойдзеш у двор да калгасніка — цэлая ферма ўласнай жывёлы. Як правіла, у кожнай сям'і карова, цёлка пярэзімка, два—тры падсвінкі, у каго 20, а ў каго і 80 гусей, куры, качкі, авечкі. Рыгор Караткевіч да зімы трымаў бычка-вытворніка, а ў калгасніка Андрэя Давыдзенкі і цяпер у хляве стаіць конь. Праўда, гэты конь лічыцца нібы за сынам (той працуе дырэктарам Загорскай школы), але канём фактычна карыстаецца бацька.

Чаму так атрымалася? Чаму ў Воранаўцы ніхто не праводзіць у жыццё Статут сельгасарцелі?

Кармянскі райком партыі ведаў адно: зніжаюцца паказчыкі па ўраджайнасці, па мясу, малаку—шукаюць новага старшыню праўлення. Пацікавіцца хто з вобласці: «Чаму калгас імя Дзімітрава адстае?» Адказваюць: «Уздымаем, старшыню змянілі сёлета. Вопытнага таварыша паслалі».

Той «вопытны» таварыш яшчэ не справіцца агледзецца ў калгасе, як яго выклікаюць у райком і за адставанне пачынаюць выбіраць дубняк з бярэзнікам. Папярэджваюць: «Праз месяц не будзе мяса, малака — вымову закоцім».

Дарэчы, а што сабой уяўляе тав. Талкачоў, на якога, як на цяперашняга старшыню калгаса, сакратар райкома Раманаў махнуў рукой.

Мікалай Канстанцінавіч Талкачоў 25 год праслужыў у арміі. Будучы маёрам, пайшоў у адстаўку. Вярнуўся на радзіму, у Карму. Райком прапанаваў работу — намеснікам старшыні калгаса «Перамога». Праз тры месяцы накіравалі старшынёй праўлення ў калгас імя Дзімітрава.

— Дайце хоць паўгода пабыць намеснікам, — прасіўся ён.

Тады працаваў другім сакратаром Кармянскага райкома партыі тав. Набокін (цяпер ён старшыня Буда-Кашалёўскага райвыканкома). І вось на бюро райкома партыі той жа Набокін папярэдзіў Талкачова.

— Мы вам напамінаем аб вашай партыйнасці. Куды пасылаем, туды і пойдзеце.

Бюро вёў Іван Фёдаравіч Раманаў — першы сакратар райкома. Раманаў таксама быў за тое, каб Талкачова паслаць старшынёй праўлення. Аднак ні Раманаў, ні Набокін не пацікавіліся, ці ведае тав. Талкачоў сельскую гаспадарку. А Талкачову сорамна тады было прызнавацца: прыбыўшы з арміі, ён не мог нават запрэгчы каня.

Гэтакім прыйшоў у калгас імя Дзімітрава дваццаць шосты старшыня. За год працы ў калгасе Талкачоў на бюро райкома ўжо не раз атрымліваў вымовы. І, нарэшце, падаў заяву аб звальненні.

...А шостай гадзіне вечара ў памяшканні Воранаўскага сельсавета сабраліся камуністы. Іх 43 ў калгасе. Прыйшлі жывёлаводы, радавыя калгаснікі. Своечасова прыехаў і сакратар райкома.

Гаварыць на сходзе аб выніках студзеньскага Пленума ЦК КПСС было рана, бо Пленум яшчэ прадаўжаў работу. Гаварылі на старую тэму: чаму бедны калгас? Аднак шчырай размовы не атрымалася. Раіліся, як перавезці сена з-за Сожа, як адрамантаваць сані, аб кантрактацыі цялят у калгаснікаў і г. д. Можа людзі не хацелі рэзаць праўду ў вочы, што тут быў першы сакратар райкома, або думалі: які сэнс гаварыць аб новых парадках пры старым старшыні. Нарэшце, ветурач Арлоўскі выказаў думку калгаснікаў:

— Днямі Пленум у Маскве закончыць работу, тады збяромся.

Выступіў і Раманаў. Ён гаварыў доўга і аб зніжэнні цэн на запасныя часткі для трактароў, і як зрабіць наліўную дарогу праз Сож, каб сена з лугу прывозіць. Затым абвясціў, што ў канцы студзеня адбудзецца справаздачна-выбарчы сход. На гэтым сходзе, відавочна, будуць выбіраць новага старшыню праўлення. А каго — ніхто не ведае. Аб кандыдатуры яшчэ не раіліся.

Назаўтра мы гутарылі ў райкоме з Раманавым. Сакратар расказаў, наколькі пабагацелі калгасы раёна за апошнія два гады, калі ён прыбыў у раён. Кароў стала больш у два разы. Але да гэтага паставіўся самакрытычна.

— А разы гэта якія? — спытаў сам у сябе. І адказаў: — Было па чатыры каровы на сто гектараў зямлі. Цяпер — восем. Мала!

Не ўтаіў Раманаў, як да яго прыходу ў раён у некаторых калгасах выхваляліся «ліпавым» малаком. Здавалі дзяржаве больш, чым надойвалі. Раён за два апошнія гады пайшоў на ўздым усіх галін сельскай гаспадаркі. Сакратар гаварыў і пра перспектывы. Нават намаляваў на аркушы паперы праект круглага свінарніка на 300 галоў. Гэты праект ён сам прапанаваў.

— Пабудуем у калгасах вось такія, — прадаўжаў ён, — Сабекошт свініны ў два разы знізіцца.

Відаць было па настрою сакратара, што студзеньскі Пленум ЦК КПСС акрыліў яго, з'явілася ўпэўненасць, што ёсць рэальныя магчымасці ўзняць адстаючыя калгасы да ўзроўню перадавых. І тут жа гаварыў пра цяжкасці росту. Мала вопытных кадраў у раёне. Старшыня лепшага ў раёне калгаса Герой Сацыялістычнай Працы тав. Нікіцін пайшоў на заслужаны адпачынак. Даручылі кіраваць гаспадаркай яго намесніку. Не прайшло трох месяцаў, як у калгасе і надоі панізіліся, і працоўная дысцыпліна пахіснулася. Што ж, зноў папрасілі Нікіціна вярнуцца да штурвала.

— А якая ваша думка наконт калгаса імя Дзімітрава?

Сакратар цяжка ўздыхнуў.

— Каго мяркуеце паслаць туды старшынёй?

— Што ж, накіруем новага таварыша. Можа нават з апарату райкома партыі.

Менавіта каго — Раманаў не сказаў.

Каму быць новым старшынёй праўлення ў арцелі імя Дзімітрава—думаюць і калгаснікі. Хопіць ужо гастралёраў! Трэба ў калгас сапраўднага гаспадара. Студзеньскі Пленум нашай партыі павеяў свежым подыхам вясны, акрэсліў новыя далягляды ўздыму калгаснай вытворчасці.

М. ГРОДНЕЎ.

Кармянскі раён.



ПАРЫЖ. Вялікая колькасць французаў наведала юбілейную выстаўку, прысвечаную жыццю і творчасці Льва Талстога, адкрытую ў парыжскай Нацыянальнай бібліятэцы. Сярод 300 экспанатаў выстаўкі — карціны, пісьмы, кнігі з прыватных збораў членаў сям'і Талстога, савецкіх і французскіх дзеячоў культуры.

Галоўны адміністратар Нацыянальнай бібліятэкі Жульен Кэн заявіў, што арганізацыяй выстаўкі навуковыя і грамадскія колы Францыі хацелі не толькі аддаць належнае вялікаму таленту Талстога, але і яшчэ раз падкрэсліць наяўнасць даўніх культурных сувязей паміж двума народамі. Цяжка сказаць, адзначыў Кэн, колькі разоў перавыдаваліся яго раманы, якія ўвайшлі, як і творчасць вялікіх пісьменнікаў Францыі, у французскую класічную літаратуру. Як вялікі мастак, Талстой належыць усяму свету.

**На здымку:** частка экспазіцыі з партрэтамі Л. Талстога.

Фота агенцтва **Кейстон.**

# ХАПУГІ ЗА РУЛЁМ

Дарогі, дарогі... Куды толькі яны не вядуць? У вялікія і малыя гарады, вёскі і новабудоўлі. Дзень і ноч ходзяць па іх аўтамабільныя паязды з будаўнічымі матэрыяламі, сыравінай для фабрык і заводаў. Камфартабельныя аўтобусы перавозяць пасажыраў. Хораша на дызельным экспрэсе. Едзеш, як у самалёце — хутка, мякка. Водзяць гэтыя выдатныя аўтамабілі сумленныя шафёры. Многа іх — цэлая армія. Працуюць яны без стомы. Уноч і ўдзень, у сцюжу і бездарожжа.

Ёсць у мяне сябра М. Працуе ён шафёрам у Мінскім аўтобусным парку. Сустрэліся мы нядаўна з ім там жа, у канторы, дзе меўся адбыцца партыйны сход. Да пачатку сходу заставалася яшчэ з паўгадзіны і мы разгаварыліся. Ён мне расказаў сумную гісторыю, добра знаёмую тым, хто часта бывае ў камандзіроўках. Паехаў надоечы мой сябра да сваякоў у госці на Гомельшчыну. Забавіўся там і спазніўся на цягнік. Падаўся на шашу. На Мінск — няспынны рух машын. Паспадзяваўся ён, што які-небудзь шафёр падвязе. І праўда, чакаць доўга не прыйшлося. З-за павароту вынырнуў аўтобус.

— На Мінск, — папрасіўся пасажыр.

— Сядай, — дазволіў вадзіцель.

У машыне было не менш 20 чалавек. Праўда, шафёр не пакідаў на магістралі ніводнага чалавека, які прасіўся пад'ехаць.

— Добры чалавек, — заўважыў я, не чакаючы канца расказа.

— Капеечная дабрата ў яго, — сказаў М. — Не праехалі і дзесяці кіламетраў, як гэты «дабрадзей» пачаў збіраць з пасажыраў грошы. А машыну ж з рамонту вёў... калымшчык...

Я сустрэў калымшчыкаў, калі наведаў праз некалькі дзён аўтобусны парк Мінскага абласнога аўтатрэста. Старшы інжынер кантрольна-рэвізійнай групы Н. Сталяроў не вельмі ахвотна адказваў на пытанні. «Так, у аўтобусным парку бываюць выпадкі прысваення дзяржаўных грошай, але з'ява гэтая даволі рэдкая і вінаватыя адразу прыцягваюцца да адказнасці», — расказваў ён.

Кіраўнік рэвізійнай групы ўпарта не хацеў азнаёміць мяне з актамі, якія складзены пры яго ўдзеле па розных злоўжываннях асобных шафёраў. І, відаць, таму, што ў аўтобусным парку, які ўзначальвае Віктар Іванавіч Смыслоў, не любяць выносіць смецця з хаты.

Шматлікія факты сведчаць, што ў аўтобусным парку хапугам за рулём дужа добра жывецца.

Шафёр С. К. Лазар не раз вызначаўся непрыгожымі справамі. У лістападзе мінулага года ён зноў з 21 пасажыра сабраў грошы за праезд і паклаў іх ва ўласную кішэню. Даведаўся аб гэтым выпадку кіраўнік аўтобуснага парку і сарамліва паціснуў плячыма. Нічога, маўляў, страшэннага не адбылося. Прысвоена ж толькі каля 300 рублёў.

У гэты ж дзень у парку вылучалі шафёраў і кандуктараў на прэміяванне за выдатную работу. І вось з'явіўся загад № 350-К ад 26 лістапада, па якім атрымаў прэмію... і шафёр-калымшчык Лазар. Каб не вельмі гаварылі пра гэты выпадак, дырэктар парку тав. Смыслоў зрабіў ход канём: суму прэміі Лазару паменшыў на 25 працэнтаў.

«Зрабіў» пэўныя вывады з гэтай гісторыі і Лазар. Не прайшло 15 дзён, як ён папоўніў паніжаную суму прэміі. Прывёз ва Узду дзесяць пасажыраў, а грошы паклаў сабе ў кішэню. Яго ж паплечнік С. М. Ліфудзі нажываецца іншымі сродкамі. Вось адзін з прыкладаў. Складзены кантралёрамі акт № 0111 сведчыць, што Ліфудзі аднойчы (менавіта аднойчы, бо злавіць яго за руку не вельмі стараліся) на маршруце Даўгінава — Мінск прадаў 12 старых білетаў. Робіць гэта Ліфудзі вельмі проста. Калі пасажыры прыбываюць да месца прызначэння, ён бярэ ў іх выкарыстаныя білеты, а потым зноў пускае іх у абарот. Даведаўся аб гэтым дырэктар парку і толькі паківаў пальцам на Ліфудзі. А што ж з прысвоенымі грашыма? Аб гэтым ні слова.

Дарэчы, наконт абарачальнасці білетаў. Гэтым метадам нажывы тут карыстаюцца не толькі калымшчыкі-шафёры, але і асобныя касіры. Грамадзянін Галейша рашыў паведаміць аб гэтым кіраўнікам аўтапарку. Ён спадзяваўся, што касіра лагойскай аўтобуснай касы, якая прадае старыя білеты, пакараюць. Але ў дырэктара аўтобуснага парку сэрца добрае, ён ўсё даруе. У загадзе № 328 яе (у каторы раз) папярэдзілі і нават не патрабавалі пісьмовага тлумачэння.

Калі ў парку заводзіцца гутарка аб выпадках прысваення дзяржаўных грошай, калымшчыкі апраўдваюцца: «Не ў вашу кішэню залезлі». І сапраўды, не з кішэні ж дырэктара парку Смыслова ці начальніка аддзела эксплуатацыі Мядзведзева яны цягнуць грошы!

Вось што піша ў парк касір Бярэзінскай аўтастанцыі А. М. Лыскавец: «... у час майго дзяжурства шафёры Мінскага аўтапарку Лазоўскі і Юркоўскі (аўтобус № 46—42), следуючы па маршруту Магілёў — Мінск, заехалі на аўтастанцыю Беразіно і пасадзілі ў аўтобус 20 чалавек без білетаў. Калі я ўвайшла ў аўтобус для праверкі білетаў, абодва вадзіцелі адмовіліся прад'явіць мне пуцявы і кантрольны лісты, а калі я настойліва патрабавала, адзін з шафёраў сказаў: «Мы да цябе ў кішэню не залезлі».

Такой думкі прытрымліваюцца многія работнікі аўтобуснага парку. І таму на пісьмы працоўных, акты кантралёраў тут дрэнна рэагуюць. Так, 20 актаў, рапартаў і скарг на несумленную працу асобных шафёраў дырэкцыя проста паклала пад сукно, знайшоўшы зручную «прычыну», нібыта тэрміны рэагавання скончыліся.

Хто ў наш час можа мірыцца з хапугамі за рулём? Калючым дзеркачом трэба вымесці гэтае смецце з калектыву аўтатранспартнікаў.

М. СЯМЁНАЎ.

# Нотаграфічныя нататкі

*(Новыя выданні беларускай музыкі)*

**«Песні аб Леніне»** — вакальны зборнік, у які ўвайшлі пяць песень беларускіх кампазітараў аб вялікім правадыру. Гэтыя творы, розныя па мастацкай задуме і ўвасабленню, па жанравых асаблівасцях, прасякнуты агульнай ідэяй — паказаць усенародную любоў і павагу да «самага чалавечнага з усіх людзей». «Песня аб Леніне» М. Аладава (словы А. Дзеружынскага) напісана для народнага хору. Кампазітар стварыў яе ў духу сучаснай народнай песні, велічнай і распеўнай. Бадзёрая маршападобная песня Д. Камінскага «Ленінскае слова» (словы М. Алтухова) вабіць свежасцю меладычнага малюнка і яркасцю гарманічнага суправаджэння. Найбольш цікавая ў зборніку песня Р. Пукста «Спускалася ноч над палямі» (словы А. Бачылы). Яна напісана як пранікнёны лірычны маналог-роздум. Ленінская тэма знайшла тут новае, арыгінальнае вырашэнне. У ёй прыкметна злучэнне рысаў камерна-вакальнай музыкі (у партыі фартэпіяна) і традыцый савецкай масавай песні. Змешчаны таксама «Песня аб Леніне» Ю. Семянякі (словы А. Лазнявога) і «Нас вітае Ленін» І. Кузняцова (словы А. Бачылы).

Увогуле зборнік пакідае вельмі прыемнае ўражанне. Усе песні могуць увайсці ў рэпертуар прафесіянальных і самадзейных калектываў і выканаўцаў.

**«Беларускія народныя танцы»** (для фартэпіяна або баяна) — гэта зборнік, складзены С. Грабеншчыкавым і выпушчаны ў дапамогу самадзейным танцавальным калектывам. У зборнік увайшла музыка беларускіх танцаў: «Карагодны», «Зязюлька», «Церніца», «Мяцеліца», «Каханачка», «Барысаўская полька» і «Чарот». Народныя мелодыі дадзены ў апрацоўках беларускіх кампазітараў М. Чуркіна, Я. Цікоцкага, А. Багатырова, Д. Лукаса, Д. Камінскага, С. Палонскага і Р. Пукста.

**«Хоры»** М. Аладава і Ю. Семянякі — выданні вельмі патрэбныя і карысныя для аматараў мастацтва. У абодва зборнікі ўвайшлі хоры без суправаджэння. Хоры М. Аладава манументальныя па форме, некаторыя з іх можна назваць харавымі паэмамі. Кампазітараў вабяць тэмы грамадскага значэння («За мір» — словы З. Вагера), велічныя карціны беларускай прыроды, звязаныя з гісторыяй, з лёсам народа («Пушчы, бары» — словы М. Клімковіча, «Дуб» і «Ой, ты Нарач» — словы А. Дзеружынскага), вясёлыя народна-жанравыя замалёўкі («Шчабятуха» — словы М. Клімковіча). М. Аладаў вельмі шырока і разнабакова карыстаецца паліфанічнымі прыёмамі, ствараючы насычаную па гучанню харавую тканіну. Зборнік хораў Ю. Семянякі складаецца з пяці твораў. Па зместу іх можна падзяліць на дзве часткі. Хоры «Бяссмерце» (словы А. Лазнявога) і «Нас партыя вядзе» (словы А. Звонака) па свайму характару блізкія да масавых песень. Хоры «Спакойна дрэмле Нарач» (словы М. Танка) і «Зімовы лес» (словы М. Машары) — больш «камерныя» па сваёй задуме. Музыка іх напоўнена светлым лірычным пачуццём. Да іх прымыкае і хор на словы М. Танка «Ну і вечар веснавы» — карціна маладзёжнай весялосці.

**«Варыяцыі на беларускую народную тэму»** для цымбал з фартэпіяна Д. Камінскага — твор, які ўжо даўно ўвайшоў у рэпертуар беларускіх цымбалістаў. У ім бліскуча выкарыстаны тэхнічныя магчымасці салірующага інструмента. У «Варыяцыях» выканаўца можа па-сапраўднаму паказаць свае віртуозныя і гукавыя якасці.

**«Варыяцыі»** на беларускую народную тэму Э. Тырманд — фартэпіянны твор, які можа быць шырока выкарыстаны як педагагічны рэпертуар, дзякуючы прастаце ізлажэння, нескладанасці тэхнічнага ўзроўню, меладычнай і гарманічнай яснасці. Творы інструментальныя радзей выпускаюцца нашым выдавецтвам, чым вакальныя і харавыя. А шкада, бо яны павялічваюць педагагічны рэпертуар пры навучанні маладых выканаўцаў.

Усе названыя выданні з добрым густам аформлены. Асабліва хочацца адзначыць вокладку «Песень аб Леніне». На жаль, тэхнічны бок некаторых выданняў мае рад недахопаў. Так, напрыклад, у «Песні аб Леніне» М. Аладава ў трэцім радку нотнага тэксту адсутнічаюць ключавыя знакі. У хоры М. Аладава «Пушчы, бары» дапушчаны дэфект у падтэкстоўцы мелодыі. У іншых рэчах не заўсёды выразна надрукаваны асобныя ноты, знакі альтэрацыі і г. д.

Ул. БАБРОЎ.

**На здымку:** вокладкі новых музычных выданняў.

# Спакушэнне Каблукова

(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.).

«А можа, і мне аднесці надалей ад берага?— убачыўшы, што Іван Пятровіч з вядром і торбай у руках падаўся на плёс, завагаўся Сяргей Сяргеевіч, але, зірнуўшы на свае далоні, усе ў чырвоных мазалях, плюнуў:—Ды гарыць ён няхай, і жывец гэты, каб я дзёўб для яго новую палонку! Адкуль выцягнуў, там і пастаўлю!..»

Ён так і зрабіў. Палонку крыху расшырыў, прывязаў шнур да палачкі, начапіў на «якар» небараку-акунька, які нервова дрыгаў знявечаным хвастом, і кінуў яго ў ваду. А сам пайшоў на бераг. Пара было абедаць.

Неўзабаве сюды прыйшоў і Іван Пятровіч. Вясёлы, ружовы, бадзёры, ён хутка расклаў агонь, павесіў над ім чайнік і падміргнуў Каблукову:

— Хочаш пагрэцца? Ёсць. Толькі—сталічная.

Сяргей Сяргеевіч паморшчыўся, але шклянку асушыў. Уплёў ладны кавалак халоднай цяляціны, запіў яе півам, і прылёг ля кастра на яловыя лапкі. Прыемнае цяпло разлілося па ўсяму целу. Ён пазяхнуў, наставіў каўнер, павольна заплюшчыў вочы...

А калі прачнуўся, то сонца ўжо вісела амаль над самым лесам. Марозіла. Страляў іскрамі касцёр. Ля агню, такі ж ружовы і вясёлы, як і раней, стаяў Іван Пятровіч.

Сяргей Сяргеевіч паварушыўся і адчуў, што ні рукі, ні ногі больш не слухаюцца яго, а па спіне нібы хто з колікам пахадзіў: так і ные.

— Што, развезла?—прыжмурыўшы хітрыя чорныя вочы, засмяяўся Пчолкін.—Бывае! Не прывык пешняй махаць, вось і ўвесь дыягназ...

Каблукоў не хацеў паказаць, што яго і сапраўды ўходалі пешня і той разявака-акунёк, якога выпадкова падчапіў за хвост, а таму, сабраўшы ўсе сілы, амаль лёгка ўстаў на ногі, соладка пацягнуўся і прабубнеў:

— Проста—задрамаў. Здорава ж, брат, спіцца на вольным паветры!..—І спытаў:—Глядзеў свае рагулькі?

— Ды вунь,—раўнадушна кіўнуў Іван Пятровіч на бярозку, пад якой ляжалі тры шчупакі і два вялізныя акуні.—Зараз пайду другі раз глядзець. А пакуль жыўцоў лавіў. Здорава клююць, карапузы! Хопіць і табе на пераджыўку.

— Эт!—махнуў рукой Сяргей Сяргеевіч і адвярнуўся.—Я пераджыўляць не буду. І тыя, мусіць, жывыя яшчэ, прастаяць да цямна...

Сяргей Сяргеевіч раскурыў люльку і паплёўся да сваёй адзінокай жэрліцы...

... За ўсё жыццё Сяргей Сяргеевіч Каблукоў не бачыў, як бярэцца шчупак на жэрліцу, а таму зусім не звярнуў увагі на тое, што шнур яго «спушчаны»,—расцягнуты на ўсю даўжыню. Прысеўшы каля палонкі, ён, не спяшаючыся, дакурыў люльку, выбіў попел і толькі пасля гэтага ўзяўся за шнур. Пацягнуў і заклапочана нахмурыўся. Шнур не паддаваўся.

«Зачапіўся!»—крактануў Сяргей Сяргеевіч і пачухаў патыліцу: што ж цяпер рабіць? Кінуць шнур? Шкада! Новенькі. Але і як адчэпіш? Пад лёд жа не залезеш!..

«Эт, чорт з ім, са шнурам!»—нарэшце махнуў ён рукой і падналёг з усяе сілы. Шнур скрануўся з месца, але адчувалася, што на канцы яго цягнецца нешта важкае, цяжкое. «Корч, гарэць бы яму сінім агнём!»—вылаяўся Сяргей Сяргеевіч, нязграбна перабіраючы непаслухмянымі пальцамі шнур. Метр, яшчэ метр. І раптам Сяргей Сяргеевіч адхіснуўся. З вады, вылупіўшы маленькія, цёмныя вочы, высунулася вялізная пляскатая галава. Яна варожа паглядзела на Сяргея Сяргеевіча, шырока пазяхнула сваёй ружова-шызай клыкастай пашчай і—павольна знікла.

Сяргею Сяргеевічу стала так горача, нібы яго з ног да галавы аблілі варам. Шчупак! Гэта быў шчупак, яго шчупак! Няўжо ён сарваўся?

Не памятаючы сябе, Каблукоў зноў ухапіўся за шнур. Шнур балюча апёк яму пальцы, але Сяргей Сяргеевіч не звярнуў на гэта ўвагі. Уперся і пацягнуў шчупака назад, да палонкі. Вось ён! Вось яна, тая пляскатая, чорная, з шызым адлівам, галава. Глядзіць на яго страшнымі вачыма і нібы чакае, што ён будзе рабіць далей?

А гэтага якраз Сяргей Сяргеевіч і не ведаў. Крук бы сюды, той крук, які прапаноўвалі яму ўчора ў магазіне. Дык жа не купіў! Грошай пашкадаваў! А што цяпер рабіць?..

І раптам Сяргей Сяргеевіч успомніў, што рыбакі—о, колькі разоў яны хваліліся гэтым!—бяруць вялікую рыбу ў вадзе прама за вочы. Значыць...

Пальцы правай рукі Сяргея Сяргеевіча распасцёрліся самі сабою і сталі нібы жалезнымі. Здавалася, што ўся сіла, якая была ў мышцах Каблукова, пераліласся ў іх. Ён асцярожна нахіліўся над палонкай, нацэліўся і—р-раз!

Нясцерпны, дзікі, пранозлівы боль пранізаў цела Сяргея Сяргеевіча. Ён адхіснуўся назад і разам з рукою выхапіў з вады шчупака. Захапіўшы чатыры пальцы рукі Каблукова ў сваю жалезную пашчу, шчупак вісеў і варожа варушыў плаўнікамі, нібы збіраўся накінуцца на Каблукова і схапіць яго ўжо не за руку, а за горла.

Асядаючы на лёд, Сяргей Сяргеевіч глуха застагнаў...

* * *

Усю дарогу ад возера да горада Сяргей Сяргеевіч Каблукоў сядзеў бледны, з заплюшчанымі вачыма. А калі машына спынілася, ён узняў галаву, вінавата зірнуў на Івана Пятровіча і скупа ўсміхнуўся.

— Эх! Тузануў жа мяне чорт цягнуць цябе, няўмеку, на возера!—з болем у голасе ўздыхнуў Іван Пятровіч.

— А ты хіба ведаў, што я суну пальцы шчупаку ў зубы?—зноў сумна ўсміхнуўся Каблукоў. Памаўчаўшы, раптам весела дадаў:—Ладна, не тужы! Зажыве. А вось заклад табе прыдзецца аддаць! Шчупака ж я злавіў! І яшчэ злаўлю! Пабачыш!..

Іван Пятровіч здзіўлена паглядзеў на Сяргея Сяргеевіча і зразумеў: няма былога Каблукова! Размачылі «сухара»! І ўсміхнуўся.

# „Вожык“ у гасцях ва ўкраінскай газеты

«Вожык» у гасцях у «Літаратурнай газеты» — пад такім загалоўкам украінская літаратурная газета ў нумары ад 24 студзеня г. г. надрукавала падборку твораў беларускіх пісьменнікаў і мастакоў. У падборцы — верш П. Броўкі «Пратры акно», байка Ул. Корбана «Шклянка чаю», апавяданне В. Болтача «Удалы спектакль», малюнкі А. Волкава і Р. Грамыкі, кароткія гумарэскі «Усмешкі чытачоў» і «Тэатральная сумесь».

Слова беларускага сатырычнага часопіса ва ўкраінскай газеце — адна з незлічоных праяў дружбы братніх літаратур.

# КОРАТКА

У Румынскай Народнай Рэспубліцы выдадзены раман беларускага празаіка І. Мележа «Мінскі напрамак». Гэтая ж кніга выйшла і на чэшскай мове.

* * *

Група артыстаў Тэатра юнага гледача пабывала ў Магілёве. Для рабочай моладзі горада быў наладжаны вялікі канцэрт. Днямі артысты наведаюць Барысаў, дзе пакажуць юным гледачам спектакль «Казачны домік».

* * *

У Беларускім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі адбылася сустрэча рабочых і інтэлігенцыі сталіцы са скульптарам С. Селіхановым. Скульптар падзяліўся ўражаннямі ад паездкі ў Афрыку. Затым прысутныя прагледзелі дакументальныя фільмы «Па новай Гвінеі» і «Сцягі над Ганай».

* * *

Дзіцячае выдавецтва Украінскай ССР выдала дзевятнаццацітысячным тыражом кнігу беларускай пісьменніцы З. Бандарынай «Ой рана на Івана».

Галоўны рэдактар Янка ШАРАХОЎСКІ.
Рэдакцыйная калегія: Заір АЗГУР, Аляксандр БУТАКОЎ, Кастусь ГУБАРЭВІЧ, Васіль ІВАШЫН, Аркадзь МАРЦІНОВІЧ (адказны сакратар), Пятро ПРЫХОДЗЬКА, Раман САБАЛЕНКА (намеснік галоўнага рэдактара), Мікола ТКАЧОЎ, Іван ШАЦІЛА, Рыгор ШЫРМА.



«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР, Минск.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: г. Мінск, вул. Захарава, 19. Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі — 3-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 3-25-25, адказнага сакратара — 3-25-25, аддзела літаратуры—3-22-04, аддзела мастацтва — 3-24-62, аддзела культуры—3-20-54, выдавецтва—3-19-52, бухгалтэрыі — 3-11-03.

«Літаратура і мастацтва» выходзіць два разы на тыдзень: у аўторак і пятніцу.

Друкарня імя Сталіна.

АТ 00041